Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№101-102 (866-867) 4-6 чэрвеня 1994 г. Субота-панядзелак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 630120 экз. Кошт у розніцу — 200 руб.

## Хай загояцца ўсе раны роднай зямлі, хай чыстымі, як яе крыніцы, стануць нашы думы, каб запанавала суладдзе між прыродай і грамадой!



Фота Міхася ЖЫЛІНСКАГА.

*Пульс прэзідэнцкай кампаніі*

### Кебіч і Лукашэнка — любімцы брэстаўчан?

Калі б выбары прэзідэнта праводзіліся сёння, то, паводле даных, атрыманых у Брэсце сацыёлагамі цэнтра даследаванняў будучыні, за Вячаслава Кебіча гатовы аддаць свае галасы 26,8 працэнта гараджан, за Аляксандра Лукашэнку — 12,7 працэнта, за астатніх кандыдатаў — ад двух да пяці працэнтаў. Кандыдатам на прэзідэнцкую пасаду трэба ўлічваць, што больш як трэць жыхароў Брэста пакуль яшчэ не вызначылі сваіх пазіцый.

**Іван КУКСА.**

### А хто будзе кантраляваць?

**Пасля таго, як у друку з'явіліся паведамленні аб тым, што пры Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта ствараецца кансультацыйны савет па кантролю за выкарыстаннем кандыдатамі на такую высокую пасаду сродкаў масавай інфармацыі, многіх цікавіла, хто ж увойдзе ў яго састаў. Нарэшце стала вядома.**

На перыяд выбараў у ролі суддзяў будуць выступаць Валянцін Болтач (Валянцін Блакіт) — галоўны рэдактар часопіса "Вожык", Мікола Матукоўскі — журналіст і драматург, Віктар Семянкоў — член-карэспандэнт Акадэміі навук рэспублікі, Барыс Стральцоў — доктар філалагічных навук, Іосіф Юхо — доктар юрыдычных навук.

**Святлана КАЛІНКІНА,**

### Лепш вучыцца на чужых памылках

**Не сакрэт, што пры цяперашняй дарагоўлі газет галоўнымі інфармацыйнымі каналамі для насельніцтва Беларусі сталі радыё і тэлебачанне. Таму менавіта на іх будуць рабіць асноўную стаўку ў сваёй перадвыбарнай барацьбе кандыдаты на пасаду прэзідэнта і іх каманды. Аднак адсутнасць вопыту асвятлення такіх кампаній у нашых радыё- і тэлежурналістаў ставіць перад апошнімі нямала праблем.**

Іх, вядома, можна вырашаць метадам проб і памылак, які добра прыжыўся ў нас, але ці заўсёды трэба нанава вынаходзіць кола? У дадзеным выпадку дапамагчы сваім калегам узялася Беларуская асацыяцыя недзяржаўнага тэлебачання. У многім дзякуючы ёй і яе прэзідэнту Мікалаю Ігнаценку ўбачыла свет кніга амерыканскіх аўтараў Элен Міцкевіч і Чарльза М.Фаерстоуна "Тэлебачанне і выбары" на беларускай мове.

Гэта некамерцыйнае выданне выпушчана пры падтрымцы тэлекампаніі ММ-4, акцыянернага таварыства МКТ і незалежнага выдавецтва "Тэхналогія" ў рэкордныя тэрміны — усяго за 18 дзён. Распаўсюджваецца бясплатна. За мяжой кніга "Тэлебачанне і выбары" атрымала высокую ацэнку спецыялістаў. У ёй абагульнены вопыт асвятлення на тэлебачанні выбараў у розных краінах, прыводзяцца канкрэтныя прыклады, разглядаюцца іх вартасці і недахопы, даюцца рэкамендацыі. Тут падрабязна штудзіруюцца пытанні, якія датычацца прадастаўлення кандыдатам платнага і бясплатнага эфірнага часу, палітычнай рэкламы, перадвыбарных дэбатаў.

**Віктар КУКЛОЎ, Белінфарм.**

Сенсацыя, ад якой скалануўся ўвесь свет

Глядзіце 2-ю старонку

Любимая женщина чекиста Дзержинского

5-я страница

Осторожно: шарлатанство!

Читайте 6-ю страницу

*Улада і народ*

### Спікер прывёз у Гродна лета

Валеры ДРАЗДОЎ

**У мінулым нумары мы паведамлялі ўжо сваім чытачам аб рабочай паездцы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслава Грыба па Гродзенскай вобласці. Пачалася яна з наведвання гродзенскага завода "Радыёпрыбор".**

Прадпрыемства выпускае вельмі неабходную людзям прадукцыю — ад тэлевізараў да электрычных прасаў — на 46 мільярдаў рублёў у год. Працуе тут 2600 чалавек.

Сустрэчы з рабочымі — а іх было многа — праходзілі спачатку ў цэхах, каля станкоў. А дзесьці праз гадзіну Мячэслаў Іванавіч сустрэўся з працаўнікамі ў актавай зале завода. Ён адзначыў, што кожная сустрэча з землякамі абагачае новымі ідэямі, дапамагае дэталёва і грунтоўна бачыць жыццёвыя праблемы, шукаць напрамкі іх вырашэння. Вось і сёння ён прыехаў, каб паслухаць людзей, параіцца аб шляхах пераадолення тых цяжкасцей, якія агарнулі зараз нашу родную Беларусь. Яна па-ранейшаму застаецца ў стане глыбокага эканамічнага крызісу. Інфляцыя ў мінулым месяцы дасягнула 43 працэнтаў. За паўгода цэны выраслі ў 2,4 раза. Вось такія невясёлыя справы. І казаць мы можам толькі аб тармажэнні і паніжэнні масавага абвалу сельскагаспадарчай і прамысловай вытворчасці. Старшыня Вярхоўнага Савета адзначыў, што лідэры дзяржавы сёння робяць усё, каб вывесці яе з глыбокага крызісу. Шлях да гэтага ён асабіста бачыць праз эканамічны саюз з Расіяй.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

Графік выпуску 8-палоснага нумара не дазваляе рэдакцыі надрукаваць сёння тэкст выступлення М.І.Грыба перад калектывам гродзенскага завода "Радыёпрыбор". Гэты матэрыял будзе змешчаны ў наступным нумары.

### Зоркі ўсміхаюцца Шушкевічу?

**Вядомы беларускі экстрасэнс і астролаг Валерый Лістратаў зрабіў свой прагноз аб выніках першых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Паводле яго перакананпя, дзень 23 чэрвеня, калі грамадзяне Беларусі прыйдуць да выбарчых урнаў, спрыяльны для кандыдата, які нарадзіўся пад знакам Стральца.**

У Цэнтральнай камісіі мы ўдакладнілі даты нараджэння ўсіх прэтэндэнтаў на такую адказную пасаду. Высветлілася наступная карціна: Аляксандр Дубко нарадзіўся 14 студзеня 1938 года пад знакам Казярога; Вячаслаў Кебіч — 10 чэрвеня 1936 года, Блізняты; Аляксандр Лукашэнка — 30 жніўня 1954 года, Дзева; Васіль Новікаў — 21 лістапада 1946 года, Скарпіён; Зянон Пазьняк — 24 красавіка 1944 года, Цялец; Станіслаў Шушкевіч — 15 снежня 1934 года, Стралец. Як бачыце, зоркі "ўсміхаюцца" Шушкевічу.

Засталося толькі пачакаць менш за тры тыдні, і ўсе мы даведаемся, наколькі дакладны гэты прагноз.

**Белінфарм.**

*Адкрытым тэкстам*

### Вярхоўны Савет павінен гарантаваць свабоду слова ў нашай краіне!

#### Заява рады Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі

Трывога, абурэнне, гнеў — такія пачуцці спараджае рашэнне кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё аб закрыцці папулярных радыёстанцый "Беларуская маладзёжная" і "Крыніца", ледзь не адзіных праграм, у якіх гучалі галасы сумленных журналістаў у абарону дэмакратыі, супраць вяртання нашай краіны да таталітарызму. Менавіта як расправу над свабодай слова, гарантаванай Канстытуцыяй, успрымаем мы гэты акт. Што за ім стаіць, здагадацца няцяжка: пазбавіць народ праўдзівай інфармацыі пра прэтэндэнтаў на прэзідэнцкі пост. Мы рашуча пратэстуем супраць знявагі права на свабоду слова. Мы нагадваем кіраўніцтву Дзяржтэлерадыё, што тэлебачанне і радыё — не прыватная ўласнасць, яны — дзяржаўныя і фінансуюцца падаткаплацельшчыкамі. Мы ўсе плацім, і мы жадаем з эфіру атрымліваць шматбаковую, праўдзівую інфармацыю. Гэта наша канстытуцыйнае права, і за яго будзем змагацца, выкарыстоўваючы ўсе законныя сродкі.

У выпадку, калі кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё не адновіць выхаду ў эфір радыёстанцый "Беларуская маладзёжная" і "Крыніца", не спыніць рэпрэсій супраць сумленных журналістаў, будзе працягваць палітыку "прамывання мазгоў" хлуснёй, дэмагогіяй, абразамі незалежнай дзяржавы і дэмакратычных працэсаў, мы пакідаем за сабой права звярнуцца да ўсіх рэжысёраў, акцёраў краіны байкатаваць удзел у праграмах тэлебачання і радыё.

Просім Вярхоўны Савет забяспечыць гарантыі свабоды слова ў нашай краіне.

